

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# Наша СЛОВА.pdf



**Першы год выдання** **№ 33 17 жніўня 2022 г.**

# Слонім адсвяткаваў 770-годдзе




На мінулым тыдні Слонім адзначаў 770-годдзе. Дата сур'ёзная, але цалкам ігнаруе факты згадвання Слоніма пад 1011 і 1036 гадамі, якія цвердзяць пра 1000-гадовую гісторыю гэтага старажытнага беларускага горада, аднаго з самых старажытных. Але начальнікам відней.

12 жніўня ў Слоніме адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Гісторыка-культурная спадчына Слонімшчыны: погляд у мінулае", прысвечаная 770-годдзю з дня першай згадкі Слоніма ў Іпацьеўскім летапісе. У канферэнцыі прынялі ўдзел супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі і музейшчыкі, а таксама выкладчыкі вышэйшых навуча-льных установаў Беларусі. Падчас канферэнцыі слухачы пазнаёміліся з выступленнямі на самыя розныя тэмы. Гучалі даклады пра прывілеі на Магдэбургскае права мястэчку Жыровічы, пра гістарычную ўрбананімію Слоніма, пра Жыровіцкае Евангелле, пра слонімскія грамнічныя соймікі ў панаванне Аўгуста III (1736-1763) і шмат іншых. Цікава было паслухаць навукоўцаў, якія распавядалі пра грашовыя даходы і расходы Слоніма ў першай палове 19 стагоддзя, пра 1860-я гады ў гісторыі Слонімшчыны, пра медыцынскае забеспячэнне насельніцтва Слонімшчыны ў кантэксце развіцця аховы здароўя Заходняй Беларусі ў 1919-1939 гадах і г.д. Канферэнцыя праводзілася ў рамках дзяржаўнай праграмы навуковых даследаванняў на 2021-2025 гады.

*(Працяг тэмы на ст. 2.)*

# Святары трох канфесій урачыста закруцілі слоік памідораў

***Як у Іўі прайшло мясцовае свята "Іўеўскі памідор"***

У Іўі Гарадзенскай вобласці 13 жніўня прайшло гарадское свята "Іўеўскі памідор", распавядае "Іўеўскі край".

Па вуліцах горада прайшоў карнавал, адбыўся конкурс на самае хуткае паяданне памідораў, зрабілі самы вялікі бутэрброд, памераліся ўраджаем, пабіліся памідорамі.




А потым чыноўнікі закруцілі першы слоік іўеўскіх памідораў ураджаю 2022 года. Права зрабіць гэта было "прадстаўлена" старшыні райвыканкама, міністру прыроды і дэпутату парламента.



А каб замацаваць вынік, закруцілі "сяброўскі слоік" святары трох канфесій.

***Паводле СМІ.***





# Слонім адсвяткаваў 770-годдзе

(Заканчэннe. Пачатак на ст. 1.)

13 жніўня на галоўнай сцэнічнай пляцоўцы на цэнтральным пляцы горада адбылося ўрачыстае адкрыццё маштабнага мерапрыемства, прысвечанага імпрэзе 770-гадовага юбілею Слоніма, паведамляе slonves.by.




Да 12:00 да пляца з фантанамі, упрыгожанай кветкамі і сцягамі, пачалі сцякацца калоны святочна апранутых слонімцаў, сярод якіх былі паважаныя, вядомыя ў горадзе людзі, ардэнаносцы, ветэраны працы, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый Слонімшчыны, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў, шматдзетныя сем'і і моладзь. На свята прыехалі ганаровыя грамадзяне Слоніма, дэлегацыі з гарадоў-пабрацімаў блізкага замежжа і госці з розных куткоў Беларусі. Адбылася працяглая цырымонія ўзнагароджання лепшых прадстаўнікоў Слонімскай зямлі.






Свята ўпрыгожылі канцэртныя нумары.

З вітальным словам да прысутных звярнуўся старшыня Слонімскага раённага выканаўчага камітэта Генадзь Баляслававіч Хоміч, які адзначыў, што свята 770-годдзя Слоніма - гэта яшчэ адна нагода сказаць пра сваю любоў да малой Радзімы, бо нельга не любіць месца, дзе жывеш і працуеш, ствараеш сям'ю і выхоўваеш дзяцей. Нездарма кажуць, што самы лепшы горад - той, дзе чалавек шчаслівы!

- Юбілей горада - гэта наша сумеснае свята, - падкрэсліў Генадзь Баляслававіч. - Усіх нас аб'ядноўвае любоў да агульнага дома, удзел у яго лёсе, неабыякавасць да яго аблічча і традыцый. Мы па праве ганарымся ўнікальнай культурнай і гістарычнай спадчынай Слоніма, яго дасягненнямі. І з года ў год мы разам робім усё магчымае, каб нашы родныя месцы станавіліся прыгажэй і прывабней для жыцця. Слонім - гэта горад-працаўнік. І сёння мы ўшаноўваем нашых жыхароў - прадстаўнікоў розных прафесій. Горад жыве, дзякуючы яго душы і сэрцу - дзякуючы людзям. Я шчыра віншую ўсіх тых, хто нарадзіўся і вырас у Слоніме, хто прыехаў сюды вучыцца і працаваць. Кожны з нас сёння сваёй працай, сваім стаўленнем, словамі і ўчынкамі вызначае, якім стане ў будучыні для нашых дзяцей і ўнукаў наш горад.







Па завяршэнні ўсіх запрасілі да неспадзеўкі - на "Імянінны торт - 770".

***Паводле СМІ.***






# Бабруйская настаўніца робіць настолкі, каб вывучаць беларускую мову гуляючы

Людміла Крылова, настаўніца і дэфектолаг з Бабруйска, мае ўжо 12 аўтарскіх гульняў, якімі можна карыстацца і ў школе, і дома - і так вывучаць беларускую мову, піша сайт *1387.by*. Навінкі надрукаваны літаральна на днях! "На падыходзе яшчэ тры", - дзеліцца планамі энтузіястка, і дадае:

- У мяне няма мэты на настолках зарабіць. Хачу падарыць магчымасці вучыць мову цікава.




**Як усё пачалося?**

Ідэя рабіць дыдактычныя гульні для школьнікаў наведала Людмілу ў часы, калі яна працавала ў Цэнтры дзіцячай творчасці. Там бабруйчанка была намесніцай дырэктара па выхаваўчай працы і займалася праектам беларускамоўнай змены летніка для сотні дзяцей. А калі яна пайшла настаўнічаць у школу, паўстала пытанне - як матываваць васьмікласнікаў з цікавасцю наведваць шосты навучальны дзень. Людміла прапанавала ім ствараць гульні для малодшых. Формы настаўніца прапаноўвала сама, а яе вучні падбіралі лексічныя матэрыял.




Так бабруйчанка пачала ствараць настолкі - як для малодшага, так і для дарослага школьнага ўзросту. Многія словы ці пытанні яна спярша тэстуе праз свой інстаграм, а пасля дадае ў гульні.

**Тэматыка гульняў**

Першымі гульнямі былі лато для малодшага ўзросту, трохкутнікі з сінонімамі і антонімамі для старэйшых класаў (па іх добра рыхтавацца да алімпіядаў), рэбусы. З апошніх - "Праўда і хлусня" на экалагічную тэму, "Пчолка Леля" для самых маленькіх (дапамагае вывучыць новыя словы), настолка-хадзілка "У пошуках скарбаў", моўнае даміно, "Калейдаскоп" - антонімы, "Калейдаскоп" - літаратура ды іншыя.

Цяпер у скарбонцы настаўніцы 12 гульняў, і тры на падыходзе.

- Адна гульня ўжо год ляжыць, ніяк не дашліфую пытанні. Абкатваю на дзецях, а яны іх не бяруць. Трэба спрашчаць. Але гэта будзе гульня жыцця, - смяецца Людміла Крылова. - Дапамагаюць вучні ды інстаграм. Там я кожны дзень выкладаю пытанні з гульняў, якія раблю, такім чынам іх абкатваю. Ідэю гульні "Незнаёмцы" год таму прапанавала мянчанка, напісала, а пасля мы стэлефанаваліся. Для гэтай настолкі я год падбірала цікавыя словы. Амаль усё ствараецца летам, бо маю больш вольнага часу для афармлення гульні ў "смачнае адзенне".

**Як прыдбаць настолку ад Людмілы**

Свае настолкі Людміла друкуе ў Менску, па 30 асобнікаў. Пакуль яна не знайшла замоўцаў, зацікаўленых у вырабе больш вялікіх накладаў. Але ў мінулым годзе на друк 100 асобнікаў ахвяраваў сталічны прадпрымальнік.

- Гэта быў прыемны шок, - узгадвае бабруйчанка. - Ён проста напісаў: "Хачу дапамагчы". І цяпер, калі мяне запрашаюць з аўтарскімі майстар-класамі "Вучым мову гуляючы, або лайфхакі для цікавага навучання", маю магчымасць рабіць удзельнікам падарункі. Бо мне падарылі - і я дару. Звярталася ў часопісы, але адзінае, што яны могуць прапанаваць - каляровы ўкладыш.

Таму ў асноўным раблю сваімі сіламі, на ўласныя грошы. І дзякуй настаўнікам, якія цікавяцца настолкамі, дасылаю ім. Наогул у мяне няма мэты на гэтым зарабіць. Хачу падарыць магчымасці вучыць мову цікава!

Таксама Людміла робіць закладкі для кніг, з іх дапамогай можна ўдасканальваць свае веды

Зацікавілі настолкі Людмілы Крыловай? Пішыце ў яе інстаграм. Там жа можна ўбачыць усе гульні і нават паўдзельнічаць у стварэнні новых.

***1387.by.***





# ТУТ ЗЯМЛЯ ТАКАЯ...

Паэзіяй жыцця, чароўнай песняй можна назваць паэтычную Воранаўшчыну. Колькі ні прыязджай сюды - а душа штораз пакутуе ад расстання з гэтым Богам падараваным краем зямлі беларускай. Бо ТУТ ЗЯМЛЯ ТАКАЯ, з залатымі каласамі і са спеўна-гаманкімі, гасціннымі людзьмі, адоранымі надзвычай вабнай душэўнай прыгажосцю...

І ганарыцца сваім краем, праслаўляць яго і захоўваць духоўную скарбніцу могуць напоўніцу самі гаспадары Воранаўшчыны - людзі, неабыякавыя да сваёй спадчыны: хаты, бацькоў і землякоў, продкаў і сівой мінуўшчыны, да гаючых песень і гаманкога слоўца, да кожнай зялінкі і сінявы мірнага неба над сваім дабраславёным краем...

"Воранаўшчына лірычная " - пад такой сціплай і пашанлівай назвай сабраны творы, дзе ўкладзена душа ў кожнае слоўца і ў кожную ноту, якія дораць незвычайныя сакральныя пераліўы мелодый, ігру пачуццяў на сваёй чароўнай ліры... Як быццам зіхаціць бурштынам, пераліваецца-гучыць мілагучны і загадкава каларытны малюнак Воранаўскага краю, паэтычныя скарбы якога бязмежныя і невычэрпныя, хаваюць і тояць у сваіх глыбінях залатыя россыпы людской мудрасці, досціпу і песеннай меладычнасці.

Паэзія - каралеўна літаратуры. Пісаць вершы здольны не кожны, бо неабходна мець пэўны лад душы, незвычайны погляд на людзей, неба, кветкі, на ўсё, што цябе акаляе. Быць паэтам - значыць быць гусляром свайго краю, спяваць пра яго прыгажосць, складаць вершы пра Яго Вялікасць Чалавека Працы, узвышаць гісторыю і сучаснасць, натхняць і даваць надзею на яшчэ лепшую будучыню. Слова ў паэта - гэта САПРАЎДНАЕ МАСТАЦТВА - мастацтва ЛІНІЙ, ГУКАЎ, ФАРБАЎ - мастацтва, у якім жыве і якім жывы чалавек. І хіба толькі паэт можа зблізіць найаддаленае, убачыць у змрочным, някідкім, халодным - чароўнае, "красу, і светласць, і прастор". Душа паэта надзвычай ранімая і вытанчаная. Яна рэагуе на праявы часу, і самае незвычайнае - адчувае подых Радзімы: пах сена і саломы, вецер з водарам траў, а зімою прахалодны подзьмух з дробнымі асвяжальнымі крупіцамі бялюткага снегу. Пах дыму купальскага вогнішча, народныя песні... Не толькі прырода дае натхненне, а ў многім люд беларускі, які спакон вякоў жыве на гэтай зямлі.

Воранаўшчына багатая на таленты з народа. Сваю свядомасць яны ўвасабляюць па-рознаму ва ўласнай паэзіі: прама і адкрыта, у спавядальных маналогах, у рэфлексіях, ці зусім інакш - апасродкавана, у форме выяўлення вонкавай рэальнасці, праз элементы апісання. Многім вершам зборніка "Воранаўшчына лірычная " характэрны медытатыўны пачатак, такі своеасаблівы ўсхваляваны і напружаны роздум. Сапраўдная паэзія




несумяшчальна з шэрасцю і нейтральнасцю мыслення, з адсутнасцю пэўнага эмацыйнага тону. Мова вершаў паэтаў Воранаўскага раёна поўная экспрэсіі, якая становіцца дамінуючым пачаткам. Тут можна сустрэць гнуткія і насычаныя інтанацыі і рыфмы, можна заўважыць каларытныя мастацкія тропы і своеадметную мастацкую вобразнасць. Край легенд і паданняў, край ваяроў і аратых, край старадаўніх традыцый, вельмі старажытны і вельмі сучасны - такой прадстае Воранаўшчына перад чытачом.

Дыяпазон лірычных пачуццяў у зборніку надзвычай шырокі. Паэтычныя творы імкнуцца адлюстраваць уражанні ад пазітыўнага, грамадска значнага, усяго таго, што з'яўляецца каштоўнасцю ў вачах аўтараў, да трагічных старонак ваеннай гісторыі. Некаторыя з тэкстаў вельмі пявучыя і чакаюць свайго кампазітара, які адорыць іх прыгожай мелодыяй.

Вясёлыя бярозкі на ўзлесках і невялічкія сонечныя сасновыя паляны, звілістыя рачулкі між балоцістых лугоў і белыя лілеі ў цёмнай вадзе - такі пейзажны краявід Воранаўшчыны. І ў гэтым жыватворным, сакральна-задуменным спакоі можна сягаць думкамі ў нязведаныя таямніцы, у святое і вечнае... Адно прыслухаемся да такіх

назваў вёсачак Воранаўскага краю, як Канвелішкі, Слёзкі, Тракелі, Лепі, Лоўцы, Лянцішкі, Падгай, Бацяны, Падзегуці, Свілы, Чырканцы і інш. Тут прыхаваны ахутаныя даўнінай нацыянальна-ментальныя патаемы гэтай унікальнай мясцовасці. Маляўнічыя краявіды і незвычайная архітэктура ўражваюць, а гісторыя адкрывае новыя таямніцы... Месца спатканняў Адама і Марылі: той памятны камень з выявай крыжыка як сімвал безнадзейнай, самотнай ростані дзвюх летуценна-мройлівых душ. І вакол - безліч спараных дрэўцаў. Ці не таямнічазагадкава гэта ?..

Паэзія можа дастукацца да душаў людзей, на якія не могуць паўплываць іншыя віды мастацтва, што тлумачыцца глыбінёй падтэксту, багатай асацыятыўнай вобразнасцю. Зборніку "Воранаўшчына лірычная" характэрны шырокі тэматычны дыяпазон, насычаны ідэйны змест. На старонках кнігі са сваімі ўласнымі лірычнымі вершамі здолелі выступіць творцы рознага ўзросту, але ўсе яны горача любяць сваю бацькаўшчыну, яе мінулае і сучаснасць, з выключнай павагай стaвяцца да гісторыі роднага краю, прыроды, чалавека-працаўніка, да блізкіх, а таксама прысвячаюць творы песнярам зямлі беларускай. Звычайнае і ўзнёслае крочаць побач, ствараючы незвычайны эстэтычны тандэм, поўны дзівоснага Хараства.

Маецца вялікі спадзеў на тое, што творчы запал майстравітых аматараў паэзіі падорыць яшчэ мноства ўзнёслых твораў пра загадкавы Воранаўскі райскі куток...

***Р.К. Казлоўскі, А.Э. Сабуць,***
*дацэнты кафедры беларускай філалогіі*
*Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта*
*імя Янкі Купалы,*
*члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

Гэты тэкст ёсць прадмова да кнігі “Воранаўшчына лірычная. Зборнік вершаў педагогаў і вучняў Воранаўскага раёна”, якая выйшла нядаўна ў Лідскай друкарні накладам 200 асобнікаў у серыі “Мая Воранаўшчына”. Зборнік выдадзены з удзелам Воранаўскага раённага выканаўчага камітэта пры фінансавай падтрымцы КСУП “Больцішкі” (старшыня Вількевіч Андрэй Феліксавіч). Рэдакцыйная рада: Н.В. Якжык, Н.І. Адамчык, Г.С. Янушка. У кнізе на 124 старонках змешчаны творы 18 аўтараў, у пераважнай большасці - гэта педагогі і вучні ўстаноў адукацыі Воранаўска раёна. У кнізе толькі каля дзясятка вершаў на рускай мове, астатнія на роднай, беларускай.

Два творы з кніжкі:

## МАЯ МАЛАЯ РАДЗІМА
### Версэт

Прывітанне, мае Канвелішкі!

Прывітанне, маё неба! Ты даеш мне крылы, каб лунаць у думках, каб прагнуць да цябе і да тых далёкіх гарызонтаў, што маняць сваёй казачнасцю і невядомасцю.

Прывітанне, мая зямля! Ты прыгожая ва ўсе поры года: і залатой восенню, і блакітнай вясной, і бела-шэрай зімой, і рознакаляровым летам. Ты корміш маіх шчырых і працавітых аднавяскоўцаў, чакаеш дажджу ў спёку і сонца - у холад.

Прывітанне, мае дарожкі-сцяжынкі! Вы ведзяце мяне да двух храмаў - нашага касцёла, дзе жыве справядлівы і мудры Бог, і да школы, дзе валадарыць навука і сяброўства, дзе цвёрдыя рукі педагогаў вядуць мяне ў Шчаслівую Будучыню.

Тут мой выток, мая аснова...
І маё сэрца.

***Даніла Трахімчык.***

## БУСЕЛ

Ізноў вясна... І ярка свеціць сонца,
Зазелянелі травы на мяжы...
І стукаюць праменьчыкі ў аконца,
І адмываюць ад зімы дажджы.

Чырвананосы бусел аблятае
Спрадвечнае сваё жытло.
Чаму бабуля сёння не страчае?
Чаму такое ціхае сяло?

І сцежкі не вядуць зусім да хаты...
"Я тут!" - пачаў наш бусел клекатаць...
І цэлы тыдзень ён чакаў заўзята,
Не верыў, што не выйдуць прывітаць.

Калісьці тут дзятва яго страчала:
- Дзень добры, наш бацянчык-клекатун!
Бабулька галавою ўслед ківала:
- Ляціш, то буду жыць яшчэ, вястун.

І ён лунаў - прыносіў радасць, шчасце.
Не нёс дзяцей - іх не чакалі тут.
Адводзіў беды, суцяшаў у нянасці...
Чаму ж не прывітае родны кут?

Пустыя хаты... Вокны ўжо не вочы...
І вецер-сухавей тут гаспадар...
Стары калодзеж болей не рабочы,
Ад комінаў не ідзе дымочак-пар...

А моладзь уся ў горад выязджае...
Бабулечкі не стала ўжо зімой...
Ды толькі верны бусел нас чакае
У роднай вёсцы кожнаю вясной.

***Наталля Якжык.***

Сёлета мы ўжо пісалі пра выхады паэтычных зборнікаў у Навагрудку і Лідзе, і вось Воранава. Розныя сілы і сродкі задзейнічаны, але асноўнае адно - жыве Божая іскра творчасці ў нашым народзе.

***Яраслаў Грынкевіч.***





# У Магілёве паставілі помнік Георгію Каніскаму

Помнік Каніскаму паставілі на аглядна́й пляцоўцы побач з лесвіцай, якая вядзе ў Падмікольскі парк. На адкрыццё прыйшлі кіраўнікі горада і аблвыканкама. Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Веніямін узнагародзіў старшыню гарвыканкама Уладзіміра Цумарава і старшыню аблвыканкама Анатоля Ісачанку медалямі "Святителя Георгия Конисского". З гараджанамі адносна таго, ці патрэбен такі помнік, улады не раіліся, паведамляе Магілёў.media.



На адкрыцці помніка сабралася вялікая грамада людзей, якія называлі сябе праваслаўнымі. Па іх словах, "Каніскі - вялікі дзеяч і святы". Некаторыя адзначалі, што ён "абараніў Белую Русь ад каталікоў".







Урачыстасць праходзіла побач з плошчай Арджанікідзэ. Яе ў 2016 годзе ўлады з ініцыятывы праваслаўных актывістаў хацелі пераназваць у гонар Каніскага. Тады было запушчана грамадскае абмеркаванне, якое выклікала палеміку ў беларускім інтэрнэце. Яно і выявіла неадназначнае стаўленне да гэтага царкоўнага дзеяча як гістарычнай асобы.

На епіскапскае служэнне ў Беларусь Каніскага запрасілі з Украіны ў 1755 годзе. Магілёўскай епархіяй ён кіраваў на зломе эпох у другой палове XVIII стагоддзя. Падзеі таго часу прывялі да знікнення з палітычнай карты Еўропы Рэчы Паспалітай.

Па ўмацаванні на беларускіх землях расійскай улады, з ініцыятывы Каніскага прымусова пачалі вяртаць у праваслаўе ўніятаў, каталікоў ды пратэстантаў. Методыку, апрабаваную на Магілёўшчыне і Мсціслаўшчыне, пазней пашырылі на ўсю Беларусь.

Паводле ўкраінскага гісторыка Ярослава Фошчана, Георгій Каніскі, трапіўшы ў Беларусь, аказаўся заложнікам часу і ўмоў, у якіх яму давялося дзейнічаць. Ён прасіўся, каб яго адправілі з архіепіскапскага служэння ў Рэчы Паспалітай ва ўкраінскі манастыр. Навуковец прызнае, што цяпер у гістарыяграфіі стаўленне да дзейнасці Каніскага палярнае.

У 1992 годзе вал "Красной звезды" пераназвалі ў архірэйскі вал Каніскага. Тады гэта не выклікала ў грамадстве напружання і расцэньвалася як аднаўленне гістарычнай праўды.

6 жніўня 1993 года архіепіскап Георгій Каніскі быў далучаны да ліку мясцовых святых. Ягоны абраз намаляваны на некалькіх праваслаўных святынях Магілёва. На Архірэйскім вале стаіць крыж у яго памяць, а на будынку былога архірэйскага палаца ўсталявана шыльда са звесткамі пра яго жыццё.

Цяперашняя ўлада ставіць Каніскага ў адзін шэраг з Еўфрасінняй Полацкай і іншымі прызнанымі беларускімі дзеячамі і асветнікамі.

Канчатковае рашэнне аб помніку Каніскаму было прынята ў 2021-м. Грамадскага абмеркавання, як у выпадку з пераназваннем плошчы, не абвяшчалася. Летась на месцы, дзе паставілі помнік Каніскаму, заклалі капсулу з пасланнем нашчадкам.

***Паводле СМІ.***

*Навіны Германіі*

# Пра зарплаты ў Германіі

***Сярэдняя зарплата ў Германіі, высокааплатныя сферы і што такое бюджэт 3000 еўра ў Берліне***

*Колькі вы будзеце зарабляць у Германіі? Гэта адно з самых распаўсюджаных пытанняў, якое задаюць сабе людзі, што пераязджаюць у Германію на працу. Нямецкая эканоміка квітнее. Такім чынам, ёй трэба шмат замежных працаўнікоў, і яна гатовая добра ім плаціць. Урэшце, нямецкія зарплаты - адны з самых высокіх у ЕС. Дык дзе самыя высокія зарплаты ў Германіі?*



**Што лічыцца добрай зарплатай у Германіі**

У Германіі чыстая месячная зарплата ад 2 500 еўра да 3 000 еўра лічыцца добрай, а звыш 3 500 еўра - вельмі добрай. З такім прыбыткам вы можаце дазволіць сабе годнае жыццё ў буйным нямецкім горадзе, уключаючы арэнду кватэры з 2 спальнямі, рэгулярнае сілкаванне і выходныя дні.

Сярэдняя зарплата брута ў Германіі ў 2022 годзе складае 51 010 еўра ці 31 386 еўра пасля выплаты падаткаў для аднаго чалавека. Гэта адпавядае чыстай штомесячнай зарплаце ў 2 615 еўра.

Справаздача пра зарплаты 2022 года паказала, што сярэдняя зарплата брута ў Германіі па ўсіх прафесіях складае каля 51 010 еўра, а мінімальная - 44 074 еўра.

Паколькі немцы не абмяркоўваюць грошы і прыбыткі адкрыта, бывае цяжка высвятліць, колькі яны зарабляюць. Больш таго, зарплата брута далёкая ад чыстага прыбытку. Гэта можа стварыць уражанне, што вы зарабляеце шмат грошай, але пасля выплаты падаткаў сума будзе значна меншая.

У Германіі добрай лічыцца гадавая зарплата брута вышэй за 50000 еўра. У цэлым, вельмі добрая сярэднегадавая зарплата ў Германіі складае ад 64 000 еўра да 81000 еўра.

Самыя высокія прыбыткі ў Германіі назіраюцца сярод сямейных пар без дзяцей і пар з дарослымі дзецьмі, якія ўжо пакінулі дом і жывуць самастойна.

У такіх выпадках распаўсюджаны чысты сямейны прыбытак у памеры 5 160 еўра, які лічыцца хутчэй верхняй мяжой.

Людзі з гадавым прыбыткам больш за 80 000 еўра ці 6 600 еўра ў месяц належаць да меншасці.

**Жыццё на 3 000 еўра ў Берліне**

3 000 еўра нета ў месяц у сярэднім складаюць гадавую зарплату брута каля 60 000 еўра. Гэта цалкам рэальная зарплата для большасці навукоўцаў з досведам працы на працягу некалькіх гадоў.

- Жыллё: вы можаце зняць 2-х пакаёвую кватэру ў цэнтры горада (1500 еўра), камунальныя паслугі абыйдуцца вам яшчэ ў 150 еўра і 35 еўра за інтэрнэт.

- Прадукты і сілкаванне: 500 - 600 EUR - вы можаце дазволіць сабе даражэйшыя арганічныя прадукты.

- Наяўны прыбытак у месяц: 715 EUR на адзежу і абутак, асабістыя рэчы, сілкаванне, забаўкі, паездкі на выходныя, штогадовы адпачынак і г.д.

- Вы можаце дазволіць сабе даражэйшае хобі.

- Вы можаце часцей ездзіць у адпачынак - 2 ці 3 адпачынкі ў год, уключаючы больш далёкія кірункі ці тыднёвы зімовы спартовы адпачынак.

- Вы таксама можаце праводзіць шмат выходных.

- Эканомія: вы зможаце адкладаць, прынамсі, некалькі сотняў еўра.

*Паводле СМІ.*
*Фота: FamVeld / Shutterstock.*



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Калі цырыманіяльная люлька не аб'ядноўвае: умець перажыць адмову ад дарагіх, але спрэчных сімвалаў*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-32)*

Тэма з'яўлення "сапраўдных" індзейцаў у "самой" Беларусі мае шмат момантаў "набліжэння" і спецыяльны "дадатак" па мастацкіх інтэрпрэтацыях - мара часта замяняе рэчаіснасць. Пісьменнік Аляксандр Тышынскі, які "пасяліў" індыянку ў "сэрцы" Беларусі і гэтым зрабіў сабе імя ў літаратары ў 19 ст., аказаўся звязаны з намерам групы індзейцаў ужо ў 20 ст. рэальна праехаць - нават прабегчы - па яе прасторах… прынамсі ў нашай перапісцы:

*"БЕЛАРУСКА-ІНДЗЕЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА*
*Костачка Я. В.*
*Школьны музей в. Мясата*
*Маладзечанскага р-на*
*№ 85 24.5.1990*

*Паважаная Яўгенія Васільеўна!*

*Г. А. Каханоўскі параіў звярнуцца да Вас у сувязі з праблемай вывучэння біяграфіі і творчай спадчыны А. Тышынскага.*

*Наша цікавасць да гэтага пісьменніка тлумачыцца тым, што ён з'яўляецца аўтарам твора "Амерыканка ў Польшчы", дзе індыянкі [бадай, індыянка і яе дачка-метыска - у "Літве" жыла канадская індыянка з дачкой] "вывучаюць" краіну, яе літаратуру і г.д. Крыху штучна створаная, але надзвычай цікавая сітуацыя культурнага дыялогу.*

*Ці не маеце Вы якіх-небудзь спецыфічна "мясцовых" матэрыялаў пра А. Тышынскага і яго сям'ю? У прыватнасці - пра склеп у Красным (мы былі б Вам удзячны за фота, калі ў Вас ёсць або ёсць магчымасць зрабіць. Мы даведаліся, што месца пахавання Тышынскіх знаходзіцца ў не вельмі добрым стане. Што трэба зрабіць, каб яго палепшыць? (Магчыма, яго пажадаюць наведаць індзейцы з ЗША, якія ў пачатку кастрычніка плануюць прайсці праз Беларусь з боку Каўнаса на Кіеў (т.зв. Свяшчэнны Бег - Еўропа, 1990)).*

*Што да кнігі Тышынскага, то ці не зацікаўлены Вы мець копію яе ў экспазіцыі музея? Экзэмпляр ёсць у Дзярж. бібліятэцы БССР. Ваш музей і наша таварыства маглі б аб'яднацца ў гэтай справе. Акрамя таго, думаем, варта б было хаця б паспрабаваць зацікавіць каго-небудзь з тых, хто добра перакладае з польскай, у збеларушчванні "Амерыканкі ў Польшчы".*

*Будзем Вам вельмі ўдзячны за любую інфармацыю пра "амерыканцаў" з Вашых мясцін (у тым ліку тых, хто вярнуўся і жыве дагэтуль).*

*З павагай Алесь Сімакоў,*

*часовы выканаўчы сакратар БІТ".*

*"Сюжэт апавядае пра лёс польскага эмігранта і легіянера, які ў выніку караблекрушэння апынуўся на амерыканскай зямлі. Замужжа з індыянкай, знаходжанне гэтай Карысты з дачкой Анакаанай у Літве, на радзіме мужа, любоўныя прыгоды Анакааны і маладых людзей, якія на яе прэтэндавалі".*

*"Дзеянне разгортваецца спачатку ў Паўночнай Амерыцы, потым на Крэсах былой Рэчы Паспалітай. Шырокія прасторы Амерыкі: з аднаго боку пустыні, з другога - шырокія лясныя масівы, дзе можна сустрэць розныя пароды дрэў (кедры, клёны, белыя таполі, чырвоныя дубы) і жывёл (ласі, алені, мядзведзі, чорныя лісы).*

*Аўтар таксама апісвае абрады людзей, якія жывуць у Паўночнай Амерыцы"* (Bibliografia polskiej powiesci minorum gentium 1840-1900).

**ГАЛЫНСКІ Аляксандр** - адным з першых выказаў ідэю пералётаў паміж Еўропай і Амерыкай; адзін з першых "беларусаў" ("пратапласт" Галынскіх прыехаў з Польшчы, але праз шлюбы яны змяшаліся з беларусамі; маці была з "пушкінскіх" Ганчаровых), якія ўбачылі індзейцаў у розных частках Амерыкі - па "схеме" Сант'яга - Каліфорнія - Квебек і г.д. (наведваннем многіх месцаў у абедзвюх Амерыках нагадвае М. Сяляву, С. Блікер і Г. Шостака, хаця "кругасветнікі-беларусы" М. Станюковіч і В. Хромчанка таксама мелі вялікую геаграфію кантактаў у час іх плаванняў). З яго жыцця - часткі вялікай сагі пра "згубленых сыноў", з яго падарожжаў, якія складаюць адысею або "эпапею", і "міжкантынентальных" рэпартажаў, найбольшую нашу ўвагу звярнула наведванне ім у 1846 г. індзейскіх вёсак каля возера Дзвюх Гор, паблізу ад Манрэаля. Пра гэта ён піша, каб праілюстраваць характар моўных кантактаў паміж плямёнамі. Іракезы і алганкіны, паселішчы якіх прылягаюць адно да аднаго, не разумеюць мовы суседзяў, што вымушае белых святароў даваць пропаведзі на дзвюх мовах.

Ён назіраў індзейцаў гуаймі ў Панаме, адзначыўшы іх добрыя якасці як весляроў і насільшчыкаў, але і ляноту, пасіўнасць, якую, аднак, тлумачыць адсутнасцю патрэбы ў вялікіх намаганнях для забеспячэння ўсім неабходным для жыцця. Сустрэчы з індзейцамі і "чола" ў Перу і Эквадоры (Ліме, Гуаякілі і Кіта) далі яму падставу для разважанняў пра "дэградацыю індзейцаў". У Каліфорніі сустрэтых індзейцаў трактаваў, паводле С. Браткоўскага (1934-2021), як "найглыбей здэградаваных", апатычных і г.д., з нібыта яўнымі інтэлектуальнымі праблемамі, аж да





"ўпадзення" і маразму.

Тым не менш, з індзейцамі братаўся - магчыма, як ніхто ў той час. Гэта быў "інавацыйны" спосаб братання - вышэйшага, чым проста падтрымка і абарона, - адчуванне еднасці, нягледзячы на непрыемныя ўражанні і кепскія этнічныя стэрэатыпы. Не кажучы пра прыемныя ўражанні. Згаданы сучасны аўтар, які падрыхтаваў з жонкай Ромай (1933-2022) польскую скарочаную версію "Каліфорніі і міжакіянскіх маршрутаў", спрабуе дадумаць акалічнасці яго сустрэчы з прыгажунямі-метыскамі, якія пралі бялізну ў ручаі ў Акапулька. "Відаць, сапраўды быў толькі памыты" (з ног да галавы), піша Браткоўскі. Аляксандр крытыкаваў пры гэтым крывадушнасць "еўрапейскага сораму".

**ГРЫНБЕРГ Джэк** - буйны дэнверскі нафтагазапрамысловец, які свідраваў зямлю і побач з індзейцамі ў розных месцах, асабліва на Паўднёвым Захадзе, і падтрымліваў індзейцаў, якія ішлі ў горную справу (памёр 11.10.2021 г. ва ўзросце 89 гадоў, а нарадзіўся ў Берасці 21.01.1932 г.). Яго імя часта фігуруе, у прыватнасці, у сувязі з Council of Energy Resource Tribes (Савет плямёнаў з энергетычнымі рэсурсамі). Быў "Speaker at Tribal (American Indian) Energy in the Southwest Conference in Albuquerque, New Mexico, December 11-12, 2006" (з рэзюмэ Грынберга). Кіраваў "Oceanic Exploration Company", якая займалася пошукам і здабычай нафты, газу і розных выкапняў у Еўропе, Азіі і Амерыцы, у т.л. у Нікарагуа, Перу.

Сам выпускнік 1952 г. Горнай школы Каларада (Colorado School of Mines - універсітэт), ён падтрымаў індзейскіх студэнтаў яе, што знайшло адлюстраванне ў публікацыях у індзейскай прэсе. Асобны артыкул пра гэта так і называецца: "Фонд Грынберга для індзейцаў": Grynberg endowment for American Indians // Rawhide Press. 1982. Jun. P. 16. Гл. таксама: $100,000 Endowment to Colorado school // Wassaja. 1982. Sept.-Oct. P. 9.




September 23, 1995

Mr. Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

Dear Mr. Simakou:

First I would like to apologize to you for not getting back to you sooner. I'm sorry.

Gordon Bronitsky is a member of the Colorado Indian Chamber of Commerce and in good standings. Gordon has helped many tribes and individual Indians in and out of the U.S (Canada). Gordon is a good man. We at the chamber have never received a complaint about him or have heard of any wrong doing on his behave. I have never done business personally with Gordon.

The Colorado Indian Chamber of Commerce was formed in 1991, and we have about 130 members (this number goes up and down throw out the year) with about half of them being American Indians and the other half being non Indians and corporations.

I have inclosed a copy of our 1995 Colorado American Indian Business Directory. We are right now in the process of putting together 1996 directory, it should be out some time around the first of the year.

Members in our chamber range from individuals selling arts and crafts to multi million dollar corporations that are American Indian owned.

I have inclosed with the directory a company profile of my company.

Ales, I hope I have been of some help to you. If you have any questions, please don't hesitate to contact me.

Thank you very much for your time.

Sincerely,

Joseph Serna

930 West 7th Avenue ▾ Denver, CO 80204 ▾ (303) 446-CICC, Fax (303) 446-8022

**ЖЫЛІНСКІ Алег** (Танта, Жалезнае Вока) - менскі індзеяніст (*"Мая індзейская гісторыя пачалася ў 1977 годзе (сёмы клас) у горадзе Заслаўе, што за дваццаць кіламетраў ад Менска, дзе я нарадзіўся"*), адзін з лепшых у краіне па вырабе індзейскіх рэчаў, па танцах і іншым. Удзельнік паўваў, лакальнага беларускага, а традыцыйна - тых хутчэй злётаў, чым паўваў, у Ленінградскай вобласці, на якія прыязджалі як "індзейцы", найбольш з самой Расіі і з Украіны, так неадназова і ўласна індзейцы, асабліва вядомыя з гэтых гасцей - Б. Медысін (сіхасапа і мінеконджу лакота), А. Пайпер (Вялікі Арол, пагасет).



"1.22.88" датаваўся першы ліст нам ад Алега (яго адрас даслала індзеяністка Ніна Аўсюкова з Навасібірска (1968-2010) у паштоўцы са штэмпелем 14.01.1988, атрыманая 17-га): *"Вы - першыя аднадумцы, якія так блізка ад нас. Да гэтага пісьма мы не ведалі ніводнага індзеяніста з Беларусі. Мы вельмі рады, што нас цяпер больш і мы не адны.*

*Мы - гэта я і трое маіх сяброў.*

*Андрэй Г. - Раз'юшаны Бізон (25 гадоў)*

*Канстанцін П. - Адважная Птушка (25 гадоў)*

*Сяргей Я. - Шэрае Воблака (26 гадоў)".*

Ігар Гураў з Краснадара апісаў свае з Танта і іншымі сумесныя сустрэчы з удзельнікамі "Свяшчэннага Бегу" 1990 г. (2000, 2001) (https://www.first-americans.spb.ru/n9/koi/sacredrungurov.htm):

*"Першы наш кантакт адбыўся ў гарвыканкаме на Палацавай плошчы насупраць Ісакіеўскага сабора. Мы туды прабраліся, зрабіўшы валасы заплеценымі ў косы і размаўляючы адзін з адным на скажонай англій-*

